**ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

# Настаўніцкая *газета*

№ 69(5251)
Чацвер,
21 чэрвеня
2001 года

*Выходзіць з 20 снежня 1945 года*

*Кошт у розніцу — 51 руб.*

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

# Спакой перайшоў у застой,

## або Хто рэалізуе дзяржаўную праграму "Сельская школа"

На старонках "НГ" пачалі актыўна выступаць і гаварыць пра свае праблемы настаўнікі сельскіх школ. Але адзін-два артыкулы — і бачыш, як калегі паўтараюцца, і размова пра набалелае зводзіцца да "плачу па-сельску" ў адным з артыкулаў "НГ".

Сёмы год я працую ў малакамплектнай сельскай школе, а да гэтага працавала ў дзвюх сталічных школах, і я дазволю сабе сельскую школу параўнаць з гарадской.

Адразу скажу: колькі б ні было праблем у сельскай школе, працаваць там лягчэй. Калі параўнаць страты сіл гарадскога і сельскага настаўніка, то настаўніку гарадской школы трэба, на мой погляд, лічыць працоўны стаж год за два. Пэўна, гэта разумеюць сельскія настаўнікі, таму часцей адсеждваюцца ціха, толькі дзе-нідзе заявяць пра сябе, каб прыкрыць свае цытадэлі горкім "плачам па-сельску". Мне не хочацца гэтымі словамі і ніжэй сказанымі пакрыўдзіць настаўнікаў, сапраўдных майстроў, падзвіжнікаў, творцаў, якія ёсць у сельскіх школах. Яны ёсць. Але ў большасці, як ні крыўдна, праўда на баку тых, хто гаворыць, што сельскі настаўнік адстаў ад патрабаванняў часу — з якога боку ні вазьмі. І справа тут не ў нізкім матэрыяльным забеспячэнні, адсутнасці спартзалаў, камп'ютэраў і г.д. І ні ў якім разе не ў гаспадарцы, якую быццам бы павінен весці настаўнік. Трымаюць свіней і кароў, як і заўсёды трымалі, бо ёсць магчымасць: не 120 жа сшыткаў правяраць, а дзесяць. Калі настаўнік зацікаўлены, ён будзе працаваць плённа. Выпадковаму чалавеку ў школе ўсё перашкаджае.

Вось у тым і справа, што настаўнік не зацікаўлены, і адстае ён ад патрабаванняў часу таму, што няма патрабаванняў да яго. У такой школе, як наша (32 вучні, на водшыбе, базавай), час даўно спыніўся. І справа тут у адсутнасці ўвагі грамадства, дзяржавы да сяла ўвогуле, і да школы ў прыватнасці. Адсутнасць увагі нараджае адсутнасць кантролю. Настаўніка ў горадзе на ўзроўні часу трымаюць прымусяць вучні, бацькі, частыя праверкі. У сельскай школе — цішыня і спакой, якога так жадаюць гарадскія настаўнікі. Але справа ў тым, што спакой даўно перайшоў у застой, а настаўнікі працуюць і паводзяць сябе так, як падказвае сумленне.

Калі ж настаўнік не працуе, а адбывае ў школе час, паглядзець на працу інакш яго не прымусяць ні дапытлівы вучань, ні дакорлівая мама, ні інспектар. Дзеці вучыцца

Калі малакамплектныя школы існуюць таму, што трэба прадоўжыць жыццё вёскі, для колькасці беларускамоўных школ, для выканання сельскагаспадарчай праграмы, то трэба звяртаць увагу на сельскіх дзяцей не толькі ў час сельскагаспадарчых работ. Дзеці — не заложнікі палітычных ідэй.

Малакамплектная школа, адаленая ад свету — гэта не калонія для вінаватых у чымсьці дзяцей ці іх бацькоў. Малакамплектная школа — гэта запаведны куточак дзіцячай чысціні і добразычлівас-

даюць сельскія настаўнікі) узнімаецца пытанне жыццядзейнасці малакамплектных школ, іх рэфармавання, распрацоўкі навучальных планаў, праграм, арганізацыі варыянтнага шматузроўневага навучання. Але хто здзейсніць гэтыя праекты, хто распрацуе планы? Няўжо зноў настаўнікі сталіцы? Хіба што зверху лепш бачна? Трэба актывізаваць лепшыя кадры ў сельскай школе, прыслухацца да іх меркаванняў. Вось толькі сельскі настаўнік не вельмі ахвочы да размовы... Творчаму чалавеку патрэбна ўвага, сельскаму настаўніку — удвая. Тут паўстане праблема недаацэнкі сябе або завышэнне сваёй ацэнкі, што ўзнікае ў выніку працы сам-насам: настаўнік не бачыць сябе ў параўнанні, не чуе ацэнкі больш сталага калегі, інспектара. Адсюль — няўпэўненасць у сваіх сілах або амбіцыёзнасць. І тут не віна сельскага настаўніка, а бяда. Настаўнік павінен мець больш уза-

Сям'я павінна быць пад увагай школы, калі толькі нараджаецца дзіця. Для вёскі гэта вельмі балючае пытанне, тым больш, што ў асноўным сем'і цяжкія.

Сумяшчальныя класы — гэта асобнае пытанне. Для такіх класаў павінны быць асобныя праграмы. Як уціснуць на адным уроку новыя тэмы двух класаў, такія насычаныя, распрацаваныя для падрыхтаваных дзяцей і апрабаваныя ў гарадскіх школах. У нас жа, на Брэсцчыне, справа ўскладняецца і тым, што ў вёсцы да школы дзіця не размаўляе ні на рускай, ні на беларускай мове. Матчына мова — дыялект. Чым больш здольнае дзіця, тым яно лягчэй пераадольвае з'явы інтэрферэнцыі. Але ж справа ў тым, што дзеці ідуць у школу вельмі слабенькія, малаздольныя да разумовай працы. Вось тут мы і падыходзім да пытання, якое добра адлюстравана ў дзяржаўнай праграме "Сельская школа": "На сённяшні дзень найбольш востра стаіць праблема навучальна-метадычнага забеспячэння адукацыйнага працэсу ў малакамплектных школах. Наяўнасць розных мадэлей сельскай школы патрабуе навукова абгрунтаванага падыходу да распрацоўкі адпаведных навучальных планаў, праграм, навучальна-метадычных комплексаў і дыдактычных матэрыялаў, у тым ліку і такіх, што адлюстроўваюць рэгіянальную спецыфіку".

**У малакамплектных школах сёння найбольш востра стаіць праблема навучальна-метадычнага забеспячэння адукацыйнага працэсу.**

не хочуць, бацькі абыходзяць школу, каб толькі іх не чапалі, дырэктар урокаў не наведвае, пазбавіў сябе ад гэтага абавязку, комплексныя праверкі з боку раённага аддзела адукацыі выклікаюць пад'ём, але не надоўга.

Стварыце ідэальныя ўмовы для працы калектыву настаўнікаў, якія страцілі цікавасць да руху наперад, ён іх не выкарыстае. Стольскі тэхнічных сродкаў я не ўбачыла ў сталічных школах, колькі іх пылілася ў базавай малакамплектнай: графапраектары, дыяпраектары, дыяскопы — некранутыя, у заводскай упакоўцы.

З урока ва урок, з году ў год — аднaзначна шэранькі ўрок. Ані ўсплёску, ані ўзлёту! Як на тэхнічныя сродкі, так і на ўсё новае, накладзена табу. Загаварыце пра новыя тэхналогіі — пачуеце! Пачуеце, што ўсё прыдумана супраць вучня і настаўніка дзеля асабістай выгады. У нас свая тэхналогія — ніякіх тэхналогій.

Мне здаецца, школы, дзе спынілася жыццё, дзе дзеці не маюць належнага развіцця, трэба зачыняць. Падвоз дзяцей дзяржаве будзе больш танным, чым аплата працы калектыву.

ці. У такой школе пытанні непакорлівасці, непаслухмянасці, здзеку не ўзнікаюць. Калі настаўнік не раздражняецца ад няправільна напісанага слова, то нішто не парушыць яго спакой. Сельскім школам патрэбна ўвага, да сельскіх калектываў трэба прад'яўляць патрабаванні, як і да гарадскіх.

Сёння ў Беларусі ёсць многа малакамплектных школ, дзе руплівыя кіраўнікі запалілі яркія агеньчыкі настаўніцкай і дзіцячай творчасці, ёсць добрыя школы і ў нашым раёне, паяўляюцца школы розных варыянтаў. Але каб заззялі малакамплектныя школы па ўсёй краіне, у кожным куточку, патрэбна ўвага грамадства, патрэбны меры, якія ўскалыхнулі б калектывы. Многія праблемы існуюць таму, што іх ніхто не вырашае і не мае ў гэтым патрэбы. А многія з іх можна вырашыць сёння без матэрыяльных затрат. Трэба зразумець, што малакамплектная сельская школа не лепшая і не горшая. Яна адметная. А адметнай школе патрэбны адметныя формы, варыянты, планы, праграмы, а затым і адметныя тэхналогіі, якія б улічвалі ўсе асаблівасці асяроддзя і самой школы, яе вучняў, іх бацькоў.

У дзяржаўнай праграме "Сельская школа" (дарэчы, аб ёй мала ве-

емін з калегамі па прадмеце. Добра было б, каб праводзіліся канферэнцыі, семінары, секцыі менавіта для сельскіх настаўнікаў, а ў чарговых выданнях з'явілася рубрыка "У дапамогу сельскаму педагогу", шырэй павінен быць наладжаны абмен вопытам працы ў сельскай школе, асабліва малакамплектнай.

Настаўнік у сельскай школе не павінен адчуваць сябе адрэзаным ад свету.

Як працаваць у класе, дзе 1-2-3 вучні? Гэта цяжкі псіхалагічны момант, і кансультацыі псіхолага павінны мець месца. Увогуле псіхолаг у малакамплектнай школе вельмі неабходны, бо замкнёная сістэма з малой колькасцю асоб тоіць у сабе вельмі многа негатыўных з'яў.

Дапамога псіхолага патрэбна і дзецям, якія раслі без садка, у акружэнні дарослых. У такіх дзяцей прыкметная неразвітасць эмацыянальнай сферы, асабліва станоўчай — у сем'ях пераважна пануе грубасць, п'янства. Дзіця не ўмее захапляцца, здзіўляцца, а без гэтых якасцей вучыцца добра не будзе. І да гутаркі яно вельмі неахвотнае. Аутызм, як вынік адносін у сям'і, паралізуе працу настаўніка ў пачатковых класах.

Патрэбна ўлічыць і тое, што вучні сельскіх школ з'яўляюцца асноўнай сілай у час уборкі бульбы. Застаецца ўсё менш працаздольных людзей, і брыгадзір усё часцей наведвае школу. І дзяцей усё менш у школе, таму хутка збіраць бульбу пойдуць ужо і пачатковыя класы. І і IV чвэрці — гэта не вучоба, а скокі па тэмах. А потым мы чытаем аналіз уступных іспытаў, параўнанні ведаў гарадскіх вучняў і сельскіх.

Праблем у сельскай школы — не пералічыць. Але многія з іх вырашыць можна без вялікіх намаганняў, — патрэбна адна ўмова — павага да сяла, да тых людзей, якія кормяць краіну за мізэрную аплату.

Увага і яшчэ раз увага — да сельскіх школ. Увага і патрабаванні — на ўзроўні гарадскіх школ і на ўзроўні часу.

**Зоя ГРЭБЕНЬ,**
**настаўніца Вавуліцкай базавай школы Драгічынскага раёна.**

Заўтра — Дзень памяці ахвяр Вялікай Айчыннай вайны

# Пакуль жывём — помнім

***Даўняя і добрая традыцыя існуе паміж Навапольскім сельскагаспадарчым тэхнікумам, што ў Мінскім раёне, і Беларускім дзяржаўным музеем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.***

Двойчы ў год студэнты сустракаюцца з супрацоўнікамі музея. У пачатку навучальнага года першакурснікі прыязджаюць у музей, знаёмяцца з экспазіцыяй. Асаблівую цікавасць у будучых фінансістаў і правазнаўцаў выклікаюць пытанні эканамічнага развіцця Беларусі ў перадваенныя і ваенныя гады.

На прыкладах унікальных экспанатаў, фотаздымкаў, дакументаў, плакатаў раскрываецца подзвіг нашага народа, які здолеў у жорсткіх умовах вайны ў кароткія тэрміны перабудаваць работу прамысловых прадпрыемстваў, сельскай гаспадаркі, транспарту, сродкаў сувязі, а таксама навукі і тэхнікі на ваенныя патрэбы.

У канцы навучальнага года ў тэхнікум выязджаюць навуковыя супрацоўнікі музея. Тэмы для гутарак агаворваюцца з выкладчыкамі загадзя. У адпаведнасці з імі адбіраюцца экспанаты, запрашаюцца ветэраны.

Апошняя сустрэча адбылася ў сярэдзіне мая гэтага года. Перад студэнтамі выступілі навуковыя супрацоўнікі А.Квач, В.Карачонак, С.Патупчык, А.Купрэйчык. Яны расказалі пра патрыятычнае падполле Мінска, настаўніка-патрыёта Героя Савецкага Саюза П.М.Машэрава — аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў падпольнай і партызанскай барацьбы ў Беларусі, аб узнагародах, якія знайшлі герояў праз шмат гадоў пасля заканчэння вайны, аб франтавых пісьмах.

З непрытоеным хваляваннем юнакі і дзяўчаты дакраналіся да рэліквій вайны — узнагарод, дзённікаў, асабістых рэчаў Героя Савецкага Саюза П.М.Машэрава і А.Г.Мазанік, юнага падпольшчыка З.Гало, які загінуў у фашысцкіх засценках, франтавых пісем — простых і праўдзівых, якія часта пісаліся ў акопах, на перадавой паміж жорсткімі баямі і атакамі. Пісьмы на паштоўках, у канвертах, а часцей проста складзеныя трохкутнікамі пісалі бацькі, сыны. А захавалі іх маці, жонкі, сяброўкі, дзеці. Весткі з фронту, часам апошнія...

Аповеды супрацоўнікаў музея дапоўнілі госці.

**Аляксандра Іванаўна Клімава** — народная артыстка СССР. У 1941 годзе, пасля заканчэння школы, працавала капіравальшчыцай на Магнітагорскім металургічным камбінаце, па вечарах займалася ў драмгуртку, выступала з канцэртамі і спектаклямі ў шпіталях і воінскіх часцях. Байцы, якія бачылі смерць і цярпелі неверагодныя пакуты ад раненняў, прагна лавілі кожнае слова юнай артысткі. А потым, вярнуўшыся на фронт, пісалі пісьмы. Адно з іх — ад Івана Емяльянавіча Лук'янчыка — Аляксандра Іванаўна захоўвае і сёння: "...Прайшло ўжо восем месяцаў, як я пакінуў ваш горад, — пісаў малады афіцэр з 1-га Украінскага фронту. — Як цяпер я бачу вас у прыгожай сукенцы на сцэне. Вы чыталі тады ўрывак з паэмы К.Сіманава "Лядовае пабоішча". Прыгожай і вясёлай запомніліся Вы мне і ў пастаноўцы "Сіняя хусцінка". З гэтымі двума вобразамі я жыву тут на фронце. З памяццю пра Вас я ішоў у самыя гарачыя баі, і мы з Вамі заўсёды выходзілі з іх пераможцамі".

Гэтае пісьмо адыграла сваю ролю ў лёсе Клімавай. Аляксандра Іванаўна на ўсё жыццё выбрала прафесію актрысы. За 60 год творчай дзейнасці яна сыграла нямала роляў. Але асабліва памятная — роля савецкай разведчыцы Ніны Сняжко ў спектаклі па п'есе А.Салынскага "Барабаншчыца", якую Клімава сыграла больш як 200 разоў.

**Зоя Мікалаеўна Атраховіч** — нявестка народнага пісьменніка Кандрата Крапівы — падзялілася ўспамінамі пра жыццё і творчасць Кандрата Кандратавіча. Расказала аб тым, што ў гады вайны яго зброяй было слова — едкае, трапнае, якое біла ворага "не ў брыво, а ў вока", асобна спынілася на перапісцы Крапівы з сям'ёй, эвакуіраванай ва Уральск.

**Алесь Ануфрыевіч Савіцкі** — беларускі пісьменнік, празаік — у суровым 1942 годзе стаў народным мсціўцам. Спачатку быў партызанам атрада "Смерць фашызму!", потым камандзірам падрыўной групы "Бальшавік" брыгады імя Варашылава на роднай Віцебшчыне. Успомніў ветэран пра сваё баявое хрышчэнне на рацэ Ушача і фашысцкую блакаду, аб тым, што за падрыў эшалонаў з фашысцкай тэхнікай быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі.

У 1944-1945 гг. у радах Чырвонай Арміі Алесь Ануфрыевіч вызваляў Літву, Польшчу, удзельнічаў у баях за ўзяцце Берліна. Быў тройчы паранены, апошні раз — пры вызваленні горада Шауляй. Тады і прадставілі мужнага байца да ўзнагароды — ордэна Славы трэцяй ступені. Але не наканавана было Алесю Савіцкаму атрымаць узнагароду. Пасля шпіталя ён не трапіў у сваю часць, і ўзнагарода згубілася на доўгія гады. Толькі ў снежні 1999 г. ордэн Славы быў уручаны Алесю Ануфрыевічу.

На памяць аб сустрэчы А.А.Савіцкі і З.М.Атраховіч перадалі ў бібліятэку тэхнікума кнігі.

У сваю чаргу мы — музейшчыкі — звярнуліся з просьбай да маладога пакалення, якое не ведала вайны, дапамагаць музею ў зборы рэліквій. Бо ў многіх, хто прыехаў на вучобу з розных куткоў нашай краіны, родныя і блізкія ў гады Айчыннай вайны змагаліся на франтах, у падполлі і партызанскіх атрадах, працавалі ў тыле. У іх сем'ях, у дзядуляў і бабуль захоўваюцца фотаздымкі, дакументы, асабістыя прадметы і рэчы, пісьмы перыяду вайны, якія так неабходны музею і могуць не толькі дапоўніць нашу экспазіцыю, але і захаваць на стагоддзі памяць аб тых, хто ў цяжкую гадзіну стаў на абарону Радзімы.

**Ала КУПРЭЙЧЫК,**
**старшы навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.**

Лета-2001

# Удалы эксперымент

***Адзіны ў Віцебскай вобласці бясплатны летнік працы і адпачынку "Валанцёр" пры сярэдняй школе № 36 Віцебска прыняў 50 дзяўчынак-падлеткаў з мнагадзетных і малазабяспечаных сем'яў.***

З даўніх часоў валанцёрамі называлі людзей, якія дапамагалі нямоглым, хворым, адзінокім. Адміністрацыя Першамайскага раённага аддзела адукацыі Віцебска пры арганізацыі летніка ставіла мэту навучыць дзяўчынак-падлеткаў міласэрнасці, спачуванню, спагадлівасці. Фактычна ў гэтым летніку рыхтуюць сапраўдных памочнікаў выхавацеляў дзіцячых устаноў.

У праграме заняткаў летніка — лекцыі Чырвонага Крыжа Першамайскага раёна, сацыяльна-псіхалагічны трэнінг, ролевыя гульні, дыскусіі на розныя тэмы, псіхагімнастыка, творчае самавыражэнне праз малюнак, аплікацыю.

На гэтых занятках педагогі-псіхолагі Іна Мікалаеўна Пчолка і Вера Мікалаеўна Лабейка вучаць дзяўчынак выказваць свае думкі, слухаць іншага чалавека, разумець яго боль, клопаты, умець сябраваць. Маладыя педагогі лічаць, што гэтыя навыкі, веды дзяўчынак прапішуцца і ў асяроддзі вучняў у класе.

Заняткі, накіраваныя на развіццё асобы, атрыманне камунікатыўных навыкаў, на разуменне сябе, разуменне і прыняцце другога чалавека падмацоўваюцца і практычнай працай. У кожнага з пяці атрадаў — сваё заданне. Першы атрад па заданню раённага аддзела Чырвонага Крыжа прымае ўдзел у размеркаванні дапамогі хворым дзецям.

Дзяўчынкі з іншых атрадаў працуюць памочнікамі выхавацеляў у дзіцячым доме па вуліцы Свядзінскага і ў Нікраполлі. А там жа дзеці хворыя, пакінутыя бацькамі. Яны гуляюць з імі на вуліцы, даглядаюць іх. Калі 14-гадовыя дзяўчынкі вучацца шкадаваць дзяцей-інвалідаў з дзяцінства, дапамагаць ім, спачуваць ім, то, думаю, пасля такіх стасункаў яны не толькі самі не пакрыўдзяць дзіця, але і другому не дазволяць гэта зрабіць. Для сямейнага жыцця гэта таксама добрая падрыхтоўка. Гарадскі цэнтр занятасці насельніцтва паклапаціўся аб тым, каб дзяўчынкі атрымалі за сваю працу заробак, а гарадскі аддзел адукацыі арганізаваў усім ім бясплатнае афармленне санітарных кніжак.

Акрамя работы ў дзяўчынак быў час для цікавых забаўляльных праграм (гульні-віктарыны, вандроўка ў Здраўнёва, экскурсіі ў ВНУ горада, пажарны музей, паходы ў кінатэатр "Брыганціна"). Можна лічыць, што эксперымент, арганізаваны па ініцыятыве Біруты Аляксандраўны Сямянковай — метадыста Першамайскага раённага аддзела адукацыі Віцебска разам з гарадскім цэнтрам занятасці насельніцтва і раённым аддзелам Чырвонага Крыжа, — удаўся. Ён паказаў, як можна вырашаць праблемы — гэта арганізацыя працы і адпачынку дзяўчынак-падлеткаў з малазабяспечаных і мнагадзетных сем'яў, арыентацыя іх на прафесію памочніка выхавацеля дзіцячых садкоў, а галоўнае — занятасць падлеткаў у летні час.

**Галіна НЕМІЗАНСКАЯ,**
**член Саюза журналістаў.**

# "Там, дзе пачыналася вайна"

***20 чэрвеня ў Мінск прыбылі маскоўскія школьнікі — удзельнікі акцыі памяці "Там, дзе пачыналася вайна", прысвечанай 60-годдзю пачатку Вялікай Айчыннай вайны.***

540 школьнікаў з Масквы — прадстаўнікі пошукавых атрадаў і лаўрэаты фестывалю дзіцячай і юнацкай творчасці "Юныя таленты Масковіі" — прыехалі на беларускую зямлю напярэдадні гадавіны адной з самых трагічных войнаў у гісторыі XX стагоддзя.

Гэты візіт — першы крок у напрамку рэалізацыі дамоўленасці аб наладжванні прамых кантактаў паміж вучнямі і настаўнікамі Мінска і Масквы, якая мае месца ў рамках дагавора аб супрацоўніцтве і абмене вопытам у вырашэнні праблем адукацыі.

І хоць мінула столькі часу з дня заканчэння адной з самых крывавых войнаў у гісторыі чалавецтва, пошукавая работа і беларускіх, і расійскіх школьнікаў, накіраваная на выяўленне цікавых матэрыялаў па гісторыі вайны як часткі гісторыі роднага краю, працягваецца. У Мінску, напрыклад, дзейнічае 77 школьных музеяў, немалую частку экспанатаў якіх складаюць рэліквіі ваенных часоў. Пошукавыя атрады масквічоў наведалі тры такія музеі, якія працуюць пры школах № 19, 97 і 137 нашай сталіцы, разам з мінскімі школьнікамі сустрэліся з ветэранамі вайны. Удзельнікі акцыі — лаўрэаты фестывалю "Юныя таленты Масковіі" — далі для іх канцэрт у мінскім Палацы дзяцей і моладзі.

Вечарам 20 чэрвеня разам з мінскімі пошукавымі атрадамі масквічы адправіліся ў Брэст, дзе і павінна завяршыцца акцыя памяці "Там, дзе пачыналася вайна".

**Святлана СУБОЦІНА.**





У пяты раз пачаў сваю работу ваенна-патрыятычны летнік "Доблесць" на тэрыторыі асобнай брыгады апаратыўнага прызначэння, якая знаходзіцца ў сталічным мікрараёне Уручча. Зараз у летніку "Доблесць" знаходзіцца 55 дзяцей Першамайскага раёна ва ўзросце ад 12 да 16 гадоў. Тут яны знаёмяцца з ваеннай тэхнікай, праводзяць спартыўныя мерапрыемствы, ездзяць на экскурсіі і наведваюць музеі. Змена доўжыцца 18 дзён.

НА ЗДЫМКАХ: выхаванцы летніка "Доблесць" праводзяць свой адпачынак цікава і захапляльна.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛТА.**

Ваенная лірыка

# Ёсць абавязку пачуццё святое...

**Міхаіл ІСАКОЎСКІ**

### Агеньчык

Хлопца з хаты праводзячы
На пазіцыі, з ім
Развіталася дзеўчына
На парозе сваім.

І хлапец, азірнуўшыся,
У начным тумане
Любаваўся агеньчыкам
На дзявочым акне.

Ён сустрэўся з вялікаю
Франтавою сям'ёй,
І сябры былі слаўныя,
І таварышы ў ёй.

Ды знаёмую вуліцу
Згадваў хвіляй цяжкой:
Дзе ж ты, дзеўчына любая?
Дзе ж, агеньчык ты мой?

І сяброўка далёкая
Хлопцу вестачку шле
Пра трывогі дзявочыя,
Пра пачуцці свае.

Што было ні загадана —
Ціхім сном не мільгне,
І дачасна агеньчык той
Не пагасне ў акне.

І на сэрцы так радасна
У байца-хлапчука
Ад такога сардэчнага
Ад яе пісямка.

Ненавіснага ворага
Ён мацней яшчэ б'е
За Радзіму савецкую,
За агеньчык яе.

**Аляксандр ТВАРДОЎСКІ**

У гэтым, што не ўсе прыйшлі з вайны,
Я ведаю, няма маёй віны.
Няўжо ж я не збярог бы іх, няўжо ж —
Ёсць абавязку пачуццё святое —
Не дапамог бы? Спрэчка не пра тое.
Так, не пра тое, але ўсё ж, усё ж...

**Аляксей ФАЦЬЯНАЎ**

### Дзе ж вы, дзе цяпер, сябры-аднапалчане?

Майскімі кароткімі начамі
Сціхнуў гул бязлітасных баёў...
Дзе ж вы, дзе цяпер, сябры-аднапалчане,
Хто са мной нялёгкі шлях прайшоў?

І ля новых весніц перад хатай
Я хаджу, калі трава ў расе.
Мо да нас сюды знаёмага салдата
Ветрык спадарожны занясе?

Мы згадалі б з ім сваю трывогу,
Як гублялі лік баям цяжкім.
І па поўнай узялі б за перамогу,
За сяброў дабавілі б мы з ім.

Калі ты выпадкам нежанаты,
Не тужы — удача не міне:
Надта ж тут у нас
прыгожыя дзяўчаты,
Як і песні ў нашай старане.

Дом табе калгасам пабудуем,
Каб відаць было — не без падстаў:
Тут жыве герой — ад нас адвёў бяду ён,
Родны край жыццём абараняў.

Майскімі кароткімі начамі
Сціхнуў гул бязлітасных баёў...
Дзе ж вы, дзе цяпер, сябры-аднапалчане,
Хто са мной нялёгкі шлях прайшоў?

**Пераклаў з рускай мовы Яўген МІКЛАШЭЎСКІ.**

Гістарычны ракурс

# Храм памятае...

***Сваё 150-годдзе адзначыў Свята-Мікалаеўскі гарнізонны сабор у Брэсцкай крэпасці-герої. Ён узвышаецца ў цэнтры воінскага мемарыяла і сёння захоўвае на сабе адбітак былых войнаў.***

***Свята-Мікалаеўскі гарнізонны сабор многае перажыў за сваю 150-гадовую гісторыю. Па крупінках збіраў яе ў архівах айцец Ігар нават калі яшчэ вучыўся ў Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Пра тое, што ўвабралі ў сябе гэтыя паўтара стагоддзя, і расказаў ён нашаму пазаштатнаму карэспандэнту.***

— Будаўніцтва Свята-Мікалаеўскай гарнізоннай царквы пачалося ў 1851 годзе. Менавіта тады па найвысачэйшым імператарскім указанні вядомы архітэктар Расіі XIX стагоддзя Давід Грым склаў праект будаўніцтва храма. Узводзіўся ён у грэчаскім стылі з велічным купалам. А ў 1906 годзе храм быў распісаны ў раманскім стылі, перайменаваны ў Свята-Мікалаеўскі гарнізонны і стаў галоўным воінскім храмам Заходняй рускай акругі.

Першая сусветная вайна абрушыла на яго сцены многія кілаграмы снарадаў. У 1915 годзе ў Расію былі эвакуіраваны званы. Пасля Рыжскага міру сабор разам з Заходняй Беларуссю ўвайшоў у склад Рэчы Паспалітай.

З 1922 па 1930 гады храм быў перабудаваны па праекце польскага архітэктара ў рымска-каталіцкі гарнізонны касцёл Святога Крыстафа. Настаяцель касцёла — шэф-палкоўнік Антоній Мацікевіч — быў кіраўніком капеланскай службы Войска Польскага. Ужо ў верасні 1939 года храм разам з польскімі салдатамі ўступіў у сутычку з нямецкімі войскамі. Сведчанне тых дзён — след бомбы, якая разарвалася на апсідзе алтара.

**— А з 1939 па 1941 гады тут знаходзіўся чырвонаармейскі клуб?**

— Так, у гісторыі сабора быў і такі факт. Але ў чэрвені 1941-га разам з воінамі Брэсцкай крэпасці гарнізонны сабор вытрымаў не адну атаку нямецка-фашысцкіх войскаў, жудасныя бамбёжкі і абстрэлы. Ён бачыў кроў і смутак абаронцаў цытадэлі. Зрашэчаны кулямі, асколкамі снарадаў і бомб, зранены, ён так і стаяў шмат гадоў пасля вайны.

У 1994 годзе храм зноў вярнуўся да рускай праваслаўнай царквы. Неўзабаве на добраахвотныя ахвяраванні прыхаджан, воінаў, фундатараў пачалося яго аднаўленне. Акрамя снарадаў і бомб зрабілі сваю справу дажджы і вецер. Час не пашкадаваў ні сцены, ні падмурак, усё больш разбураючы іх.

**— Але нягледзячы на цяжкасці Свята-Мікалаеўскі гарнізонны сабор уваскрэс і пераўтварыўся...**

— ...І сваёй белізной вяртаецца да больш вядомай гісторыі назвы — "Белая царква".

За мінулыя гады храм наведалі Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II, прэзідэнт Украіны Леанід Кучма, палітычныя дзеячы як блізкага, так і далёкага замежжа... Салдаты, афіцэры, генералы, прадстаўнікі замежных ваенных дэлегацый часта наведваюць храм.

**— І на службу прыходзяць?**

— Зразумела ж. Людзі адчуваюць патрэбнасць у царкве. І гэта ідзе на карысць Айчыне! Мы падтрымліваем цесныя сувязі з воінскімі калектывамі. Вянчацца, прайсці абрад хрышчэння прыходзяць у гарнізонны сабор не толькі беларускія вайскоўцы, прыязджаюць да нас таксама расійскія афіцэры і нават генералы.

**— Гавораць, людзі адчуваюць тут асаблівую аўру?**

— Безумоўна. У свой час менавіта тут размяшчаўся старажытны горад Бярэсце. На працягу стагоддзяў тут жылі людзі — таму гэта намоленае месца.

Пад купалам храма дагэтуль ляжаць чалавечыя астанкі. Падчас абароны Брэсцкай крэпасці сабор некалькі разоў пераходзіў з рук у рукі. Мы спрабавалі неяк паглыбіць падполле і адразу наткнуліся на косці.

**— А з падземнымі хадамі не сутыкаліся? Ходзяць чуткі, што вядуць яны не толькі да ўскраіны крэпасці, але і далей.**

— Сабор мае тры паверхі. Служба вядзецца ў вялікай зале трэцяга, а зімой — і ў так званым малым храме другога паверха. Але ёсць і першы паверх. Старажылы памятаюць нават, што вяла туды вінтавая лесвіца. Але ўсё гэта страчана.

**— Гэта значыць, сабор захоўвае яшчэ нямала тайнаў і загадак?**

— Так. Напрыклад, ці ведаеце вы, што ацяпляецца храм пры дапамозе некалі вельмі перадавой каміннай сістэмы? Так ацяпляліся палацы, рымскія лазні... Якім чынам гэта было зроблена тут?..

**— Але і ў будаўніцтве храма, напэўна, былі свае тэхналогіі, выкарыстоўваўся трывалы матэрыял, раз выстаяў сабор і пад разбуральным агнём, і ў гады бяспамяцтва...**

— Ведаеце, а аднаўляем жа святыню мы царскай цэглай. Хоць і няшмат яе засталося, але шукаем. Можаце паглядзець, і Вы знойдзеце на той ці іншай цаглінцы кляймо 1883, 1865 гадоў...

**— Вы збіраецеся ствараць пры Свята-Мікалаеўскім саборы капліцу?**

— Пабудаваць яе плануем на тэрыторыі Брэсцкага ваеннага шпіталя, насупраць аперацыйнага аддзялення. Я ляжаў у ваенным шпіталі, бачыў афіцэраў, салдат, ветэранаў, якія ідуць на аперацыі. У душы кожны з іх маліўся аб поспеху і спадзяваўся на Бога. Ведаеце, няверуючых людзей няма. У цяжкія хвіліны жыцця кожны чалавек звяртаецца да сваёй духоўнасці. Капліца будзе ўсяляць у людзей надзею. І гэта наша даніна абаронцам Айчыны. Спадзяюся, на працягу двух гадоў мы яе пабудуем.

**— Шэсцьдзесят гадоў таму храм-воін вытрымаў адно з найсур'ёзнейшых выпрабаванняў у сваёй гісторыі...**

**Гутарыла Святлана МАКАРАВА.**

**P.S.** Жадаючыя аказаць пасільную дапамогу Свята-Мікалаеўскаму гарнізоннаму сабору могуць пералічваць грашовыя сродкі на р/р 3015001041006, код 201 у Брэсцкае аддзяленне "Белзнешэканомбанка".

Ішла вайна народная

# Ліпічанскі Сусанін

***Ідуць гады... Мяняюцца пакаленні... Пра што ты думаў, салдат, у апошнюю хвіліну свайго жыцця, калі, акрываўлены, падаў на зямлю, і пад табою развітальнай сінявой мільганула неба?***

***Ты быў, салдат, перакананы, што менавіта цаной свайго жыцця абараняеш Радзіму-маці, а мужныя людзі, якія будуць жыць на гэтай зямлі пасля цябе, зберагуць у сваіх сэрцах памяць...***

## I.

Шмат народных мсціўцаў ваявалі ў Ліпічанскай пушчы, што раскінулася ў Дзятлаўскім і суседніх раёнах. Партызанскія брыгады штодзень грамілі гітлераўцаў. Вадзіў іх на аперацыі сувязны Іосіф Філідовіч. Слава пра яго подзвіг разляцелася на ўсю Беларусь. Але сёння ўжо мала хто ведае пра гэта.

...Стаяла суровая восень сорак другога года. Змрочны, цяжкі час. Агнём і мячом фашысты ўкаранялі "новы парадак": палілі вёскі, вешалі і расстрэльвалі людзей. Народныя мсціўцы разграмілі варожыя гарнізоны ў Дзярэчыне, Накрашках, Казлоўшчыне, Жалудку і іншых буйных населеных пунктах. Партызанскі рух на Дзятлаўшчыне меў сапраўды інтэрнацыянальны характар. У Ленінскай брыгадзе змагаліся беларусы, рускія, палякі, украінцы, башкіры, татары, славакі, чэхі, югаславы. Шмат слаўных спраў на рахунку разведчыка-француза Леона Эра. Не так даўно ён быў на Гродзеншчыне, сустракаўся са сваімі баявымі сябрамі.

Смелыя, дзёрзкія нападзенні на варожыя аб'екты моцна ўстрывожылі акупантаў. Было ясна, што фашысты рыхтуюцца правесці буйную карную аперацыю. На бліжэйшых станцыях у тэрміновым парадку разгружаліся войскі, якія накіроўваліся на фронт, сталі часцейшымі вобыскі, арышты, допыты, расстрэлы. Гітлераўцы мелі намер у час блакады знішчыць у пушчы ўсіх да аднаго "бальшавіцкіх бандытаў".

Каб паставіць ворагу трывалую заслону, неабходна было аб'яднаць разрозненыя сілы народных мсціўцаў. У снежні сорак другога года на хутары селяніна Якуба Пуйты быў падпісаны загад аб стварэнні Ленінскай партызанскай брыгады. Камандзірам яе быў прызначаны капітан Фёдар Міхайлавіч Сінічкін, начальнікам штаба — старшы лейтэнант Барыс Аляксандравіч Булат, якія пазней былі ўдастоены звання Герояў Савецкага Саюза. Затым сфарміраваліся брыгады імя Кірава, Першамайская, імя Варашылава і іншыя. Ліпічанская пушча стала непрыступнай крэпасцю для ворага.

Партызаны вялі настойлівыя, жорсткія баі. Параненых станавілася ўсё больш. Ім патрабавалася тэрміновае лячэнне. Што ж рабіць з імі? Зімою ў палатку іх не пакладзеш. Пакінуць на хутары ці ў вёсцы — надта вялікая рызыка. Нарада зацягнулася. Але камандзіры сышліся на адным: што б там ні было, арганізаваць пастаянны партызанскі шпіталь. Неабходна было тэрмінова адшукаць для гэтага глухое надзейнае месца. Пушча вялікая, але...

І ў самую цяжкую хвіліну на дапамогу партызанам прыйшоў сувязны з вёскі Пушча Ліпічанская Іосіф Юр'евіч Філідовіч.

— З любога становішча ёсць выйсце. Ведаю адзін востраў сярод самага непраходнага балота. Ніякі фашыст туды не прабярэцца...

Рэдкі знаўца тутэйшых мясцін, найвопытнейшы паляўнічы І.Ю.Філідовіч паказаў востраў, скрозь зарослы лесам, сярод вялікага, непраходнага нават у самыя моцныя маразы балота. Прайсці туды можна было толькі па адной звілістай сцяжынцы, па нябачных нават паблізу кладках. Вакол — бяздонная дрыгва. Чалавека, які не ведаў праходу і рызыкнуў бы прайсці на востраў, адразу чакала пагібель.

І вось у партызан закіпела работа. Тут, на востраве, абсталявалі шпіталь: выкапалі зямлянкі, пабудавалі хлебапякарню, лазню, склады. Усе аб'екты — у выглядзе пячор, каб не прыкмецілі самалёты. Праз некалькі дзён партызанская лячэбніца пачала дзейнічаць. Параненых і хворых транспартавалі на спецыяльных насілках санітары. Колькі тады было ва ўсіх аптымізму і надзеі, цяжка перадаць словамі. Да пачатку блакады на востраў паступіла каля пяцідзесяці параненых партызан.

Народныя мсціўцы вялі ўпартыя стрымліваючыя баі. Але калі навісла пагроза акружэння, камандзір брыгады Фёдар Міхайлавіч Сінічкін адразу змяніў тактыку. Сталі прарывацца адразу ў двух напрамках: у бок Налібоцкай пушчы і ў бок лесу паміж Слонімам і Баранавічамі. Умела манеўруючы па глухіх сцяжынках, народныя мсціўцы пазбавіліся ад праследавання.

А вось у шпіталі засталіся некалькі дзесяткаў хворых і параненых. Што рабіць з імі? Камбрыг загадаў больш лёгкіх адправіць у атрады, а астатнім захоўваць найстражэйшую дысцыпліну, нічым сябе не выдаваць. Так і зрабілі! Размаўлялі толькі шэптам. Ежу часова не гатавалі. Карысталіся сухім пайком.

У снежні сорак другога пачалася першая, вельмі жорсткая блакада пушчы. Фашысцкія самалёты бязлітасна бамбілі партызанскую зону. Зямля ўздрыгвала ад гулкіх выбухаў бомб, мін і снарадаў. Вогненныя трасы кулямётаў і аўтаматаў палівалі свінцом. Карнікі, прачэсваючы лясныя масівы, спадзяваліся на лёгкую здабычу, але не ўлічылі самую "дробязь" — баявыя і маральныя якасці народных мсціўцаў. Шчыльна акружыць, узяць народных мсціўцаў у кальцо акупантам так і не ўдалося.

Адчуваючы смяротную небяспеку, Іосіф Юр'евіч Філідовіч адправіў старэйшага сына Івана і малодшага ўнука Леаніда за Нёман. Два малодшыя сыны, Канстанцін і Мікалай, як пайшлі вясной сорак першага года на зборы, быццам канулі ў вечнасць, прапалі без вестак... На хутары засталіся дзед, нявесткі і дванаццацігадовы ўнук Федзя, якія даглядалі хворых...

Сапраўднай базай для ўкрыцця і дастаўкі параненых на востраў быў хутар Філідовічаў. Сюды іх прывозілі на санях або падводах. Суправаджаючыя, як правіла, заставаліся. Бацька ці яго сын Іван, а часцей за ўсё ўнук Фёдар выратоўвалі, адвозілі параненых па такой знаёмай і роднай для іх дарожцы. Ва ўмоўленым месцы іх чакалі санітары. Сцяжынку пільна засыпалі хвояй, загадзя прыбраўшы кладкі.

У шпіталі, вядома, не хапала лекаў, патрэбнага інструменту. Неяк Філідовіч даведаўся ад знаёмых, што непадалёк ад гарадскога пасёлка Наваельня жыве ляснічы Лягеза, які прадае, каму захоча, медыкаменты. Адкуль яны ў яго? Гэта здзівіла і насцярожыла камандаванне. А змагацца з цяжкімі хваробамі даводзілася кожную хвіліну, кожную гадзіну. Неўзабаве высветлілася, што ў 1941 годзе пры адступленні наша вайсковая часць пакінула на хутары некалькі санітарных машын. У іх былі скрынкі з рознымі інструментамі і лекамі. Гэты бясцэнны клад разведчыкі хутка даставілі ў партызанскі шпіталь.

Безумоўна, медыкаментаў патрабавалася многа. У сярэдзіне 1943 года яны сталі заканчвацца. З'явілася думка: а ці нельга злабыць іх у Дзятлаўскай бальніцы? Аднак задача была не з лёгкіх. У Дзятлаве размяшчаўся буйны нямецка-паліцэйскі гарнізон, а непадалёк ад бальніцы знаходзілася жандармерыя.

Да аперацыі рыхтаваліся старанна. Падключылі сувязных падпольшчыкаў, якія працавалі ў Дзятлаве.

Камандзір злучэння С.П.Шупеня разам з сакратаром Дзятлаўскага падпольнага РК КП(б)Б, камісарам Ленінскай партызанскай брыгады Г.В.Макаравым і камандзірам брыгады Ф.М.Сінічкіным вырашылі гэтае пытанне даручыць партызанскаму атраду "Барацьба". Намеснік камандзіра атрада па разведцы М.Р.Вахонін падтрымліваў цесную сувязь з дзятлаўскім падполлем, употай там бываў, добра ведаў падыходы да бальніцы, таму што каля яе не аднойчы сустракаўся з патрэбнымі яму людзьмі. Неабходны быў толькі чалавек, які ведаў, дзе ляжаць медыкаменты. Ім аказаўся ўрач А.А.Станкевіч, які раней працаваў у бальніцы.

План правядзення аперацыі ўзгаднілі са старшынёй Дзятлаўскага раённага антыфашысцкага камітэта Г.П.Русіным і галоўным урачом бальніцы М.Я.Гулецкім. Дарэчы, ён з пачатку партызанскага руху падтрымліваў з падпольшчыкамі самую цесную сувязь.

Партызанскі атрад "Барацьба" меў вялікую патрэбу ў медыкаментах для шпіталя.

У ліпені 1943 года была распрацавана аперацыя па канфіскацыі вялікай колькасці медыкаментаў, інструментаў і пасцельнай бялізны з бальніцы Дзятлава. Звесткі аб ахове бальніцы, размяшчэнні памяшканняў, ключы сувязная атрада "Барацьба" П.У.Селуянава-Якушава перадала загадзя...

...Глыбокай ноччу партызаны бясшумна знялі ахову. Але дзверы бальніцы зачыняліся знутры цяжкім засовам. Тады з чорнага ўваходу пастукала Ванда Віткоўская. Паліцаі добра ведалі яе голас. У дзвярах напагатове ўжо стаялі партызаны. Калі паліцай адсунуў засоў, дзверы расчыніліся, і ён тут жа быў "зняты". Такім жа чынам "супакоілі" і другога. А далей ўсё пайшло так, як і было задумана. Медыкаменты і інструменты хутка былі пакладзены ў партызанскія мяшкі, якія адразу зніклі ў цемры...

Гэта была вельмі важная перамога народных мсціўцаў. Ад смерці былі выратаваны дзесяткі і сотні партызан.

У справаздачы Ленінскай партызанскай брыгады штабу Шчучынскага злучэння сказана: "Дзятлаўскі антыфашысцкі камітэт... высылаў нам медыкаменты, усяляк дапамагаў, чым толькі мог...".

Нельга без хвалявання чытаць наступныя радкі.

Піша былы камандзір атрада "Чырвонагвардзейскі" І.Калашэнкаў: "Раненыя з падзякаю гаварылі аб тых, хто забяспечваў шпіталь перавязачнымі матэрыяламі, медыкаментамі. Яны і не здагадваліся, што усё гэта рабіла сціплая жанчына — Лідзія Дзмітрыеўна Дамянюк з Дзярэчына".

У сваім данясенні былы камісар Ленінскага атрада, малодшы палітрук Пётр Антонавіч Кулікоў дакладаваў камандаванню партызанскай брыгады ў пачатку 1944 года: "Антыфашысцкая арганізацыя, якая знаходзіцца ў Слоніме, забяспечвае нас медыкаментамі, большая частка іх ідзе ў шпіталь для раненых".

## II.

Чорная, трывожная ноч глядзела ў вокны. Стары Філідовіч бачыў водблескі далёкіх пажараў. Карнікі жорстка лютавалі ў наваколлі, спалілі вёскі Дубраўка, Вялікая Воля, Трахімовічы, Гарадкі, шматлікія хутары разам з жыхарамі. Сувязному пра гэта расказалі народныя мсціўцы, якіх ён сёння правёў у партызанскі шпіталь. На хутары Іосіфа Юр'евіча добра былі чуваць выбухі, калі фашысты бамбілі пераправы на Нёмане і Шчары...

На нейкае імгненне ён задумаўся. Перад вачыма прамільгнула ўсё яго жыццё. Малазямелле і бедната прымусілі селяніна-бедняка з вёскі Шаршні Іосіфа Філідовіча пры царызме перасяліцца ў Ліпічанскую пушчу. Купіў у пана ўчастак лесу, выкарчаваў пні, падрыхтаваў зямлю да сяўбы. Але і тут не знайшоў шчасця. Грымнула вайна...

Моцны стук ботаў у дзверы прымусіў уздрыгнуць Іосіфа Юр'евіча. У чорных бліскучых плашчах і стальных касках у хату ўварваліся фашысты. Хутар акружылі каля паўсотні карнікаў. Больш як трыста з іх накіраваліся да бліжэйшых хутароў. Усіх трох — старога, жанчыну і хлопчыка, хто ў чым быў, выгналі з дому. Малады афіцэр, увесь ва ўзнагародах, загадаў паставіць іх да сценкі. Так і стаялі некалькі хвілін сытыя гітлераўцы і насупраць іх — сівы стары ў стаптаных лапцях, напаўадзетая босая жанчына і хлапчук у зношаных чаравіках. Было зразумела: Філідовічаў нехта выдаў — інакш адкуль вораг ведае пра шпіталь?

— Выбірай, стары: або пакажаш, дзе шпіталь, або ім — смерць, — сказаў перакладчык.

Філідовіч маўчаў. Фашысты накіравалі аўтаматы на нявестку і ўнука. Хлопчык шчыльна прыціснуўся да маці.

— Дзе шпіталь? — крычалі фашысты, збіваючы старога. — Адказвай! Мы ведаем, хто ты такі...

Філідовіч, сабраўшы ўсе сілы, захоўваў спакой.

— Я не разумею пана афіцэра, — адказаў стары.

— Не разумееш, стары сабака! Тады спытаем у твайго шчанюка...

Гледзячы на дзеда, маўчаў і ўнук Федзя. Страх, які ахапіў яго спачатку, прапаў.

— Білі мяне вельмі моцна, — успамінае ўсё да дробязей, быццам гэта было ўчора, дужы, шыракаплечы Фёдар Іванавіч, адзін з лепшых механізатараў мясцовага калгаса "Парэчча". — Два месяцы на спіну не мог легчы. Затым узялі пятлю, накінулі на шыю і, сагнуўшы бярозу, канец вяроўкі прывязалі да верхавіны. Зноў білі. І так некалькі разоў імітавалі павешанне. Ад перажытага адразу стала сівой галава. І ўсё гэта на вачах дзеда.

— З-за цябе, бальшавіцкая сволач, збіваем хлапчука, — падышоў да старога перакладчык, — ратуй, пакуль не позна.

— Адпусціце іх, — ціха адазваўся Іосіф Юр'евіч, — яны ж нічога не ведаюць. Я правяду вас у шпіталь.

— Не задумай ашукаць, інакш будзе дрэнна, — згадзіліся фашысты.

Акінуўшы развітальным позіркам хату, І.Ю.Філідовіч адправіўся разам з атрадам карнікаў у лес. Іосіф Юр'евіч ішоў не спяшаючыся, цвёрда і ўпэўнена, як ідуць сапраўдныя людзі па сваёй роднай зямлі, уважліва слухаў зімовую цішыню махнатых, казачных елак і соснаў, такую спакойную і ўрачыстую.

Ішлі доўга. Праз некалькі гадзін афіцэр занерваваўся, закурыў. І калі перакладчык (ужо каторы раз) спытаў пра шпіталь, Іосіф Юр'евіч, цяжка пераводзячы дыханне, спакойна, быццам нічога не здарылася, сказаў:

— Ужо засталося зусім нямнога. Толькі паднімемся вунь на той ўзгорак, — ён узняў, паказваючы наперад, сваю шырокую, жылістую руку. Стары сухімі, засмяглымі вуснамі шаптаў: "Ну, сволачы, ідзіце, ідзіце... Я пакажу вам партызанскі шпіталь...".

Рушылі далей. Неўзабаве некалькі фашыстаў-коннікаў, прывязаўшы коней, рвануліся наперад, вырашыўшы, напэўна, асабіста разведаць дарогу. Але Іосіф Юр'евіч, быццам прадчуваючы гэта, паспеў звярнуць ужо на ўчастак, дзе пачыналася самая небяспечная багна. Коні, не прайшоўшы і сарака метраў, пачалі правальвацца ў балота.

— Стой! — закрычаў на ўсё горла азвярэлы афіцэр, падбег ушчыльную да Філідовіча. — Дзе, гавары, шпіталь? — Ён з усёй сілы ўдарыў праваднbackground па твары.

У вачах на нейкае імгненне пацямнела, пасыпаліся іскры, але свядомасць была яснай. Былы вясковы асілак, праўда, утрымаўся на нагах.

— Вам у шпіталь дарогі няма, — адказаў Філідовіч. Грымнулі стрэлы.

Пачало цямнець. Карны атрад доўга блукаў, усё глыбей і глыбей уцягваючыся ў лясны гушчар. Коні і фашысцкія падводы з мінамётамі сталі правальвацца ў балота. Гітлераўцы зразумелі: іх абвялі, як кажуць, вакол пальца...

Трывожна шумелі дрэвы. Рвалі вопратку ворага калючыя кусты, снег замятаў сляды. А выбрацца з балота без праваднікa, ды яшчэ ноччу, было немагчыма.

Слаўнага партызанскага сувязнога больш ніхто не бачыў. Вясной 1943 года, калі растаяў снег, яго цела знайшлі партызаны. Яно ляжала ў лясных нетрах за дзесяць кіламетраў у супрацьлеглым баку ад шпіталя. У патыліцы — дзве кулявыя раны.

Героя пахавалі з усімі вайсковымі ўшанаваннямі. Пасмяротна ён быў узнагароджаны медалём "За адвагу".

Летам 1943 года фашысты пачалі другую буйную блакаду Ліпічанскай пушчы. Але... беспаспяхова. Асноўныя сілы партызан выйшлі з акружэння. Гітлераўцы мелі звесткі, дзе прыкладна знаходзіцца шпіталь, але партызанская кемлівасць збівала іх з панталыку. Так, на месцы стаянкі аднаго з атрадаў ўзялі і раскідалі акрываўленыя бінты, вату і іншае. Усё сведчыла пра тое, што шпіталь ужо вывезены. На самай жа справе дарогу да яго старанна замаскіравалі, засыпаўшы сухімі хваёвымі іголкамі. Кладкі знялі. На іх месцы пасадзілі елкі. На востраў цяпер не прайшоў бы нават самы вопытны мясцовы паляўнічы.

Выратоўваючы байцоў, аперацыі даводзілася рабіць і пры святле лучыны, а ў цёплы час года — пад адкрытым небам.

А праз шпіталь, які дзейнічаў да 1944 года, да самага вызвалення, прайшло каля пяцісот цяжкапараненых народных мсціўцаў не толькі Шчучынскага, але і Беластоцкага партызанскіх злучэнняў. Папраўіўшыся, байцы зноў ішлі біць ворага.

## III.

Хуткакрылай птушкай ляціць час. Адыходзіць у мінулае будзённае. Але гераічнае застаецца назаўсёды...

Праз дзесяцігоддзі многія былыя партызаны прыехалі ў раённы цэнтр Дзятлава на адкрыццё помніка Іосіфу Юр'евічу Філідовічу. А іх дзеці і ўнукі ўскладалі да падножжа манумента букеты жывых цюльпанаў — гарачых кветак Перамогі. У іх было ўсё: і святло вялікай радасці, і цень глыбокага смутку.

З тугой і болем у сэрцы чытаю на пастаменце словы: "Іосіф Юр'евіч Філідовіч, жыхар вёскі Пушча Ліпічанская. У снежні 1942 года, ратуючы партызанскі шпіталь, паўтарыў подзвіг Івана Сусаніна".

Дзятлаўцы свята шануюць памяць свайго земляка. Пра яго складзены вершы, песні. У гісторыка-краязнаўчым музеі ёсць карціна мінскага мастака П.Свентахоўскага, прысвечаная подзвігу Філідовіча. Адна з вуліц горада носіць яго імя. Штогод у раёне праводзіцца Дзень І.Ю.Філідовіча. Заробленыя ў гэты дзень сродкі пералічваюцца ў раённае аддзяленне Беларускага фонду міру. А Міністэрства сувязі выпусціла каляровы канверт з партрэтам І.Ю.Філідовіча.

...Насупраць мясцовага музея шумяць, набіраюць сілу маладыя дрэўцы. Са сквера, абапіраючыся на кіёк, у сялянскай вопратцы і ботах крочыць бронзавы асілак. Твар яго мужны, у вачах — рашучасць.

**Іосіф ЗАЯЦ.**

Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Рэгістрацыйны нумар 197.

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 36-91-42; намеснікаў галоўнага рэдактара — 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-40-63; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання, навукі — 36-43-71, 36-90-63; інфармацыі — 36-41-55; ВНУ і тэхнікумаў — 36-44-25; прафтэхадукацыі, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.



Адказны дзяжурны Святлана БЕНЬ.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", 220041, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 Замова №3389
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 20.6.2001 г. у 18.10
Наклад 30.000 паасобнікаў.